# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1218) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 1 ЛІПЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.




*Літвінавіцкія кабеты святкуюць...*

## ФЭСТ У ЛІТВІНАВІЧАХ

Нагод для святкавання было аж некалькі. Першая і найважнейшая з іх — **юбілей народнай улады, 35-годдзе Польскай Народнай Рэспублікі**. На гэты юбілей спасылаліся і **Міхась Хмялеўскі,** які выступаў з дакладам ад імя Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, і **Кастусь Мішчук** — старшыня гміннага камітэта Аб'яднанага странніцтва людовага, якое ў гэтым годзе адзначае 30 гадавіну свайго існавання. І была гэта чарговая нагода для святкавання, бо ў Літвінавічах гэтая сялянская партыя закаранілася вельмі глыбока, а яе тутэйшая ячэйка найбольш шматлікая ў цэлай Нурэцкай гміне.

— Мы тут супольна ўсё вырашаем, — гаварыў мне сябра Мішчук у адказ на пытанне аб грамадскай дзейнасці. — Супольна з членамі Польскай аб'яднанай рабочай партыі і з членамі БГКТ, а таксама з нашымі жанчынамі з гуртка вясковых гаспадынь...

У Літвінавічах жыве пастаянна нейкіх 60 сем'яў. Вёска раздзялілася на некалькі паасобных вуліц, распаўзлася па хутарах. Аб'ядноўвае іх адно супольнае імкненне: каб жыць усё лепш, каб гаспадарыць па-сучаснаму.

Заглянем, для прыкладу, на панадворак да **Яна Кавалевіча.** Гэта адданы грамадскі дзеяч, актывіст БГКТ і выдатны гаспадар. У прасторнай аборы — 17 кароў, пераважна мясны маладняк. Кожны дзень адвозіць ён на скупачны пункт па 70 літраў малака.

— Ці я найлепшы ў Літвінавічах? — паўтарае ён маё пытанне. — Ці я ведаю? Бадай, знайшліся б яшчэ лепшыя, такія, для прыкладу, як мой дваюрадны брат **Пётр Кавалевіч,** аграном па адукацыі і адначасова кіраўнік сельскагаспадарчай службы ў Нурэцкай гміне. Асабістым прыкладам паказвае ён сялянам, як цяпер можна гаспадарыць і жыць у вёсцы. Апрача яго назваў бы я яшчэ **Уладзіміра Ажахоўскага** і **Яраслава Яканюка.**

А я наведаў панадворак **Марыі Кавалевіч.** Завяла мяне туды яе сяброўка **Марыя Страпчук,** старшыня гуртка вясковых гаспадынь, які ў Літвінавічах налічвае аж 40 членаў і праяўляе даволі актыўную дзейнасць.

— У мінулым годзе, — гаворыць Марыя Страпчук, — нашы жанчыны заваявалі другое месца ў маштабе ваяводства ў конкурсе **„Больш малака высокай якасці“,** а Марыся Кавалевіч, — паказвае яна на сваю сяброўку, — дабілася найлепшых вынікаў у нашай вёсцы.

Працяг на стар. 4



*На фэст з'ехаліся людзі з суседніх вёсак.*

Кавалер ордэна Адраджэння Польшчы

# ЧАЛАВЕК, ЯКОМУ ВЕРЫШ

Нешта такое ёсць у яго вачах, усмешцы, размове, што адразу адчуваеш у ім добрага чалавека. Калі з ім спатыкаешся, ён ужо прывітальна ківае галавой, падасць руку, запытае, што чуваць. Старэйшая жанчына, якая працавала з ім у адной установе на працягу некалькіх год, сказала нам:

— Цаню ў ім шчырасць і чалавечнасць. Гэтых якасцей так не хапае некаторым дырэктарам. Ён заўсёды гаворыць мякка, нават тады, калі мае да працаўніка сур'ёзныя закіды. Без абурэння, без гневу даказвае тваю неправату, твае промахі.

Ідзе тут гутарка аб Кастусю Ляшчынскім, які з'яўляецца цяпер намеснікам дырэктара гарадскога гандлю ў Гайнаўцы. Пабыўшы нейкі час у яго кабінеце, пачуеш размовы аб многіх справах, аб якіх і расказаць цяжка. Усе яны важныя, і яму з месца даводзіцца вырашаць тыя ці іншыя праблемы, даваць загады. Работа ў яго ладзіцца, бо справу сваю ён добра ведае і любіць. Кастусь Ляшчынскі, які закончыў сярэднюю эканамічную школу, працаваў у бухгалтэрыі ў ГС-е ў Нарве. У 1959-1961



г.г. партыя накіравала яго працаваць у гайнаўскі ГС, які меў тады 900 тысяч злотых страт. Неабходны быў добры арганізатар з прынцыпіяльным характарам. Распачаў К. Ляшчынскі сваё старшынстваванне ад працы з людзьмі. Хутка выкрыў слабыя бакі працы, і праз два гады гайнаўскі ГС не толькі ліквідаваў страты, але дабіўся яшчэ 1 мільёна 300 тысяч злотых даходу.

Каго як каго, але Костка, бо так яго большасць жыхароў называе, добра знаюць жыхары Гайнаўкі. У гэтым горадзе Кастусь Ляшчынскі быў 13 год старшынёй Прэзідыума гарадской рады нарадовай. У тым, што Гайнаўка аднавілася і далей прыгажэе, што становіцца прамысловым сучасным горадам, і яго заслуга. Асабліва, калі былі цяжкасці з пабудовай водаправода, старшыня Прэзідыума МРН выкарыстаў усе свае арганізацыйныя здольнасці, увесь аўтарытэт і ўрэшце дабіўся рэалізацыі намечаных заданняў.

З пачаткам 1954 года ўзнік Гайнаўскі павет. Ваяводскае праўленне Саюза польскай моладзі (ЗМП) даярае Кастусю Ляшчынскаму функцыю старшыні павятовага праўлення ЗМП. Было яму тады ўсяго 20 год. Верылі яму, ведалі, што гэты давер ён апраўдае. Хутка ў новым павеце павялічылася колькасць гурткоў ЗМП, набрала колераў культурна-выхаваўчая праца. А калі павятовыя партыйныя ўлады вырашылі грамадскай працай пабудаваць шасейныя дарогі з Гайнаўкі ў Кляшчэлі і з Гайнаўкі ў Нарву, Павятовае праўленне ЗМП арганізавала моладзь на грамадскі пачын. Тады ў адну з нядзель працавала больш як 9 тысяч чалавек, а ў асноўным была гэта моладзь.

Працяг на стар. 4



## ПОМНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

*Каля манументальнага помніка народнаму песняру Я. Купалу на скверы яго імя ў Мінску заўсёды людна.*
*Фота М. Гайдука.*

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**410 гадоў назад**

1.7.1569 зацверджана Люблінская унія. Аб'яднанне Вял. кн. Літоўскага з Польшчай у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую.

**175 гадоў назад**

1.7.1804 нар. Жорж Санд (сапр. Аўрора Дзюпен), французская пісьменніца-рамантык. Выступала за раўнапраўе жанчын у сям'і.

**45 гадоў назад**

4.7.1934 пам. М. Складоўская-Кюры, польская і французская вучоная — фізік і хімік. Адна з першых даследчыкаў радыёактыўнасці. Нобелеўскія прэміі 1903, 1911.

**35 гадоў назад**

3.7.1944 быў вызвалены Мінск.

* * * * * * * * * * *

*3.7.1909 пецярбургская „Ніва", каментуючы з'езд англійскіх журналістаў як „падзею каласальнай сусветнай важнасці", піша, што „журналісты агульнабрытанскага з'езду ўшаноўваліся, як ніколі не ўшаноўваліся не толькі журналісты, але і ніякі іншы з'езд. Каралеўская фамілія, арыстакратыя і тузы Сіты наладжвалі банкеты і прыняцці". А канферэнцыя журналістаў „зацьміла сабою дэбаты, што адбываюцца ў абедзвюх палатах".*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1185. Nakład 6400 egz. S-2



**БЕЛАРУСІЯНА**

# Гістарычныя візіі У. Караткевіча

Кніга апавяданняў і аповесцяў **Уладзіміра Караткевіча „З вякоў мінулых“**, што вышла ў мінулым годзе ў Мінску ў цыкле „Бібліятэка беларускай прозы“ і толькі нядаўна трапіла да нас на Беласточчыну, хоць і чытаецца адным глытком, прыкоўвае цалкам усю ўвагу да сябе, але яна зусім не апявае чулलівыя рамансы або прыгоды прыстойных сярэдневяковых рыцараў ці сентыментальных раскошных паняў і паненак з мінулага стагоддзя.

У. Караткевіч настолькі сумленны пісьменнік, што не дапускае нават і думкі, каб на канве трагічнага мінулага нашага народа плесці плаксівую любоўную меладраму. У яго творах любоў паміж жанчынай і мужчынам займае зусім не першапланавае месца і прытым амаль заўсёды з'яўляецца нешчаслівай.

У аповесці „Сівая легенда“ княжаскі патомак Раман Грынка з Ракутовічаў здрадзіў свайму класу прыгнятальнікаў і стаў на бок растаптаных магнацкім сваволлем сялян. Сваё каханне ён здабывае неймавернымі душэўнымі і фізічнымі пакутамі — абрубкамі рук абымае сваю жаданую. Яна ж, простая халопка Ірына, з'ядноўваецца са сваім любімым толькі пасля таго, як магілёўскі кат па прысуду вяльможаў пазбаўляе яе зроку. У патрасаючай сваёй сілай мастацкага ўздзеяння аповесці „Паром на бурнай рацэ“ жонка прыкладае ўсе намаганні, рызыкуе ўласным жыццём, каб адно ўратаваць ад смяротнага пакарання свайго мужа-паўстанца. Праз нягодніка-п'яніцу, беларускага шляхціча капітана царскай арміі Пора-Леановіча яна спазняецца з ратункам для любага чалавека ўсяго на дзесяць мінут. У былога ўдзельніка паўстання 1863 г. на Беларусі, які, пазбягаючы шчасліва мураўёўскага гальштука-віселіцы, бясконца блукае па чужой і варожай яму спякотнай Сахары ў навуковай экспедыцыі, наогул не магло быць месца і часу на звычайнае мужчынскае каханне. Усе яго думы і пачуцці накіраваны выключна на любімую сінюю-сінюю Беларусь (апавяданне „Сіняя-сіняя“). А бацькоўская апека, якой ён акружае асірацелую берберыйскую дзяўчынку, толькі падкрэсліваюць высакароднасць гэтага змагара за вызваленне Радзімы. І так амаль ва ўсіх творах, увайшоўшых у зборнік.

Каханне ў іх амаль заўсёды неспакойнае або да таго знявечанае жыццём, што астаецца ўсяго толькі беспрадметным, сімвалічным знакам шчасця цалкам недаступнага чалавеку. І не магло быць інакш на нашай зняволенай, абясчэшчанай зямлі.

Гэта яшчэ болей паглыбляе змрочную карціну нашай мінуўшчыны, калі пад іншаземным засіллем, націскам клерыкалізму, здрады пануючых класаў нават самым шляхетным людзям цяжка было ўбачыць нейкія праблескі лепшай будучыні беларускага народа.

І наперакор усяму гэтаму ў глыбіні душы любімых герояў У. Караткевіча ўвесь час палымнее замілаванне да любай роднай старонкі, да бацькоўскай мовы, да ўсяго свайго беларускага і гэты нязгасны пламеньчык жывіць і натхняе іх, з'яўляецца вядучым матывам і апраўданнем іх дзеянняў, усім сэнсам іхняга жыцця. А ўсё гэта паказвае аўтар у надта ж барвовых, сакавітых карцінах, напоўненых рэаліямі з мінулых эпохаў. Пры гэтым яны скампанаваны надзвычай арыгінальна, па-наватарску, з'яўляюцца адкрыўчым пачынам у беларускай прозе.

Здабудзьце гэтую дзівосную кнігу, і вы надоўга будзеце ў палоне заварожваючых караткевічавых гістарычных візій, так як я знаходжуся ўжо колькі часу...

**Мікалай Гайдук**

**З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ**

### „ЗОРКА ВЕНЕРА“

У Салігорску — горадзе беларускіх шахцёраў адкрыўся яшчэ адзін сучасны кінатэатр. У ім дзве залы — на 800 і 240 месц, прасторныя, светлыя фае. У дзень адкрыцця кінатэатра першымі гледачамі былі яго будаўнікі.

### ЛЯСНЫ ДАЛІКАТЭС

Дзве чыгуначныя цыстэрны бярозавага соку нарыхтавала на сезон комплексная брыгада стараценляў Смалявіцкага лясніцтва, якую ўзначальвае М. Талкач. Гэта своеасаблівы рэкорд здабычы ляснога далікатэсу ў Беларусі.

Больш як месяц у лясах рэспублікі праводзілася гэта работа. Сезон, які закончыўся, аказаўся ўраджайным. Соку нарыхтавана амаль удвая больш, чым леташняй вясны.




**Вілюкі — партызанская вёска • Фэст у Старым Корніне • „Харошкі“ • Успаміны Н. Мушынскай • Не тваё — не чапай! • З нагоды юбілею Дзядзькі Кваса • Прырода і мы • Весткі з Гайнаўкі, Бельска, Плянты, Чаромхі, Дубіч Царкоўных, Вітава, Плёсак • Калі прысніцца капуста і пажар • Песня „Taki dzień się zdarza raz”.**

**ШТО НОВАГА?**

### ВЫСТУПЛЕННЕ ПРЭЗІДЭНТА ЗША Ў КАНГРЭСЕ

Прэзідэнт ЗША Дж. Картэр выступіў на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат кангрэса з прамовай, прысвечанай вынікам венскіх перагавораў з Генеральным сакратаром ЦК КПСС, Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. І. Брэжневым.

Каля дзвюх гадзін назад, сказаў ён, я вярнуўся з трохдзённых інтэнсіўных перагавораў з Л. І. Брэжневым. За гэтыя тры дні мы наблізіліся да мэты забеспячэння стабільнасці і бяспекі ў савецка-амерыканскіх адносінах. Сумеснымі намаганнямі мы залажылі фундамент, на якім зможам будаваць больш устойлівыя адносіны паміж нашымі дзвюма краінамі.

На гэтым тыдні, працягваў прэзідэнт, я прадстаўлю ў сенат ЗША поўны і падпісаны тэкст Дагавора аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў — „самы дэталёвы, самы далёка ідучы і самы ўсеабдымны дагавор за ўсю гісторыю кантролю над узбраеннямі“. Яго палажэнні прасякнуты духам кампрамісу. Дагавор АСУ-2 з'яўляецца старанна збалансаваным цэлым, і ён зробіць жыццё на зямлі больш бяспечным для абодвух бакоў.

Гэты дагавор, сказаў далей Дж. Картэр, мае важнае значэнне таму, што ён зніжае небяспеку ядзернай вайны, вядзе непасрэдна да наступнага кроку ў галіне кантролю над ядзернымі ўзбраеннямі, з'яўляецца абсалютна абавязковай папярэдняй умовай для таго, каб перайсці да больш глыбокіх і сур'ёзных скарачэнняў стратэгічных узбраенняў у рамках АСУ-3.

Асабліва падкрэсліўшы, што Дагавор АСУ-2 не наносіць шкоды бяспецы ЗША, Дж. Картэр заклікаў сенат яго ратыфікаваць. Калі б гэты дагавор не быў ратыфікаваны, папярэдзіў ён, гэта прывяло б да далейшага нарошчвання стратэгічных узбраенняў, павялічыла б небяспеку распаўсюджання ядзернай зброі сярод іншых краін, выклікала б абвастрэнне напружанасці ў свеце і ўзмацніла б магчымасць перарастання ўзнікаючых праблем у канфрантацыю паміж вялікімі дзяржавамі. Адзначыўшы далей, што іншыя заходнія краіны рашуча падтрымліваюць дагавор, прэзідэнт падкрэсліў, што яго адхіленне сенатам нанесла б сур'ёзны ўдар па ўзаемаадносінах ЗША з іх саюзнікамі.

Дж. Картэр адзначыў, што на перагаворах у Вене абмяркоўваўся шырокі круг пытанняў савецка-амерыканскіх адносін.

**ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК**

**Piątek 29 VI** — 8.50 Film fab. 10.20 Film dok. 13.50 Film dok. 15.50 Moskwa i moskwiczanie. 18.45 Koncert. 19.10 Film fab. 20.35 Balet.

**Sobota 30 VI** — 9.20 Film fab. 10.10 Film dok. 12.00 Film fab. 16.20 W świecie zwierząt. 17.20 Film dok. 17.50 Koncert. 18.50 Film fab. 20.35 Koncert.

**Niedziela 1 VII** — 8.05 Koncert. 10.00 Film dok. 10.35 Film anim. 12.30 Spektakl. 16.05 Koncert. 18.40 Film fab.

**ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!**

**Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).**

**КІНО**

**Białowieża** Niezwykła Sarach — ang. 3—4. Przez góry skaliste — USA 5—6. Milioner — pol. 7—8.
**Bielsk Podl.** Spotkanie — ang. 1—2. Szantaż — ang. 3—4. Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. 5—6. Rewolwer Python 357 — fr. 7—8.
**Czeremcha** — Nieme kino — USA 3—4. Bez znieczulenia — pol. 7—8.
**Czyże** Maratończyk — USA. Próba ognia i wody — pol. 4—8.
**Gródek** Dzielnica willowa — bułg. 7—8.
**Hajnówka** Księżniczka Czardasza — węg. 2—3. Przełomy Missauri — USA 4—6. Bitwa o Kaukaz — radz. 7—8.
**Michałowo** Koronczarka — szwajc. 3—4. Abba — szwedz. 5—6. Do krwi ostatniej — pol. 7—8.
**Mielnik** Ofiara namiętności — hiszp. 4. Odrażający, brudni, źli — wł. 7—8.
**Milejczyce** Bestia — pol. Nie ma dymu bez ognia — fr. 4—8.
**Narew** — Siedem piegów — NRD. Komisarz w spódnicy — fr. 4—8.
**Narewka** Wszyscy i nikt — pol. Ostatni raz — USA 4—8.
**Nurzec** Robert i jego małpka — czes. 3—4. Przełomy Missauri — USA 5—6. Bilet powrotny — pol. 7—8.
**Orla** — Rocky — USA. Jego pierwsza miłość — pol. 4—8.
**Rajsk** Akwarele — pol. Na tropie Wilbego — ang. 4—8.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.


* ✲ *

*Я пазнаёміўся з табой*
*і вакол свет зрабіўся каляровы*
*хоць у вачах і пацямнела*
*убачыў многа розных цудаў*
*зрабіўся чысты далікатны*
*як з фарфару кітайскага пасуда*
*скажы што кроплю з мяне вып'еш*
*зараз пральюся я да рэшты*
*скажы што возьмеш адно шкельца*
*дык на кусочкі разаб'юся.*

**А. Барскі**



* ✲ *

Словы крыжуюцца з караванам сноў
далёка-блізкіх
бель нямее перад чэрню
зіма глыбокім вокам гладзіць сцэны
страх лічыць бліскавіцы радасці
жывеш ты
а ў спарахнеўшых рамах
хтось піша вечны верш
і сваё жыццё другое
ужо без эпілогу
разліваюцца падарожжы-хваробы
без ратунку
халодная рука
мякка чысціць забытую разьбу
з сэрцам пасябравала
разбітая думка
усё добра...

**Надзея Артымовіч**



* ✲ *

*За гэты дзень,*
*секунды,*
*сэрца слабасць*
*Аддаў бы*
*найчысцейшую*
*любоў.*
*Карункі*
*ажываюць*
*дыяментам,*
*Танцуюць*
*ў сонцы*
*белага агню.*
*Ты*
*па-*
*-га-*
*-няй!..*
*мая*
*галубка,*
*да пены!..*
*ашалелага*
*каня...*

**Юрка Трачук**

* ✲ *

і скажуць
што
ўсё звычайна

усміхнемся
адыходзячы
а пойдзем
на могілкі
ночку
буднем

туды?
— каб пачуць
жыццё
і шчыры лямант
і роздум бясконцы
і ўспаміны
— пачуем
можа нават
злiемся
ў адно

а потым
вернемся ў людзі
я і мой цень

і будзе
ўсё
звычайна

**Ваву**

* ✲ *

*Сунімі вецер*
*летуценняў*
*жадаю ў валасах тваіх*
*зблытаных*
*убачыць вочы шчаслівыя*
*будзённыя*
*жадаю дні*
*быць пры табе*
*столькі табе дала*
*імён*
*заўжды губіла след*
*і быў ты*
*сном*
*і сном ты*
*у маёй адзіноце*
*ветрам абуджаным*
*у цемрадзі*
*перапоўненая сілай цішыні*
*астануся*
*ў калысцы*
*буры...*

**В. Леанюк**

## ФЕРМАПІЛІ

Вясёлае сонца ўзышло над цяснінай,
Эолава арфа іграе яшчэ.
Я блізка стаю перад белай пліцінай,
Сярністая пена ступню мне пячэ.

Пралёты пліціны зрасліся з гарою
Пакрытай зялёнкай маленькіх кустоў,
Скала, як дракон, паглядае парою
З крыніцаю лавы пад чорным хвастом.

Цуркі разышліся, як бельня змеі,
Бягуць між каменняў шчылінамі скал,
І пеняцца злосна ў прабітых траншэях,
І ціха ўліваюцца ў вузкі канал.

Заліў тут калісь падплываў аж пад скалы,
Змагаўся ён доўга з гранітнай сцяной:
Ён мулу насыпаў шырокія валы
І з часам на ўсход адышоў мелізной.

У вузкай цясніне засеўшая Спарта
Чакала на Ксеркса і ночы і дні.
Ды ён абышоў непраходны свой тартар,
І ў клешчы папаўся кароль Леанід.

Адвага спартанцаў акрылася хвалай,
Навекі праслаўлі гэты масіў,
Хаця не затрымалі грознай навалы,
Якая ўвайшла ў Саламінскі заліў.

Цяпер на астанках, пакінутых морам,
Шаша, нібы стужка, як люстра, блішчыць.
Па струнах сталёвых на моцных апорах
Мелодыя ветру плыве ў далячынь.

А сімвалы славы глядзяць на дарогу:
Рэльеф на сцяне, рамкі жоўтыя з пліт,
Дзве голыя статуі з выглядам строгім,
На цокале белым суровы гапліт.

Увесь барэльеф, нібы вузкая кніга,
Застылымі ценямі снежных людзей
Паказвае з бітвы кароткія мігі,
Фантазію скульптара з розных падзей.

Гапліт у паставе гатовай да бою,
Як дух, сцеражэ бляск мінулых вякоў,
Трымае ў руках старажытную зброю
І зорка глядзіць на стары Рубікон.

**Д. Шатыловіч**



## ДЭБЮТ

Марыся Базылюк нарадзілася ў 1959 годзе. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Кленікі. Там закончыла пачатковую школу. Потым вучылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску. Атрымаўшы атэстат сталасці, паступіла на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Зараз студэнтка першага курса.



* ✲ *

*Соннай*
*вячэрняй імглою тулюся*
*да снапоў*
*тваіх буйных валос,*
*песняй сэрца*
*палям*
*хлебапахным клянуся*
*не забыць —*
*пусты поўдзень,*
*глыбокую ноч,*
*дзён караван,*
*песню росную траў,*
*дзе засталася*
*сцяжынка-слядочак*
*тваіх*
*і маіх, мама, спраў.*

* ✲ *

*мама*
*вясна штоноч*
*сніцца мне*
*над раніцой розкідаю*
*занавесы з вакон...*
*говорыла з болотністой сцежкой...*
*вечная*
*под нашой колiной*
*чакае...*
*у прасторах твоіх колосы*
*з травой розмаўляют*
*од того моя сведка-полоска*
*погрэвае хоця ўноч.*

* ✲ *

*не адводзь*
*цалуямі рабіны*
*гнёзды слёз*
*на амшэлым камні*
*не разгрэйваецца месяца*
*на свіданні*
*цалуямі рабіны*
*не адводзь.*

**Марыся Базылюк**

## ПОРЫ

Я ціха ўсведамляю сабе, што ў мае сорак чатыры гады пачалася пара недаверу ды самоты. Гэткае, бяспечнае кожнаму, рэагаванне на рэчаіснасць з'яўляецца паслядоўнасцю пары прагнасці да сяброўства.

Цяперашняе ўва мне магчыма параўнаць з настроем у старэючай жанчыны або, весялей, з крыўдаваннем у таго дзіцяці, якое, ласуючы ў садзе, апяклося крапівою, налезла на скрадлівы чартапалох...

З майго ўжо маўчання вынырае туга, правідловей будзе сказаць, жаль да бясконцасці: за яе сусветную агульнасць, за адхіленне шанцаў быць заўважаным ёю... Душа, вечная, як пустыня, спазірае ў Космас, бы ў дзяцінства клікане сваё, якое тым цудоўнае ў людзей, што радасць тады з'яўляецца бескарыслівай, прыязнь ёсць братэрскім каханнем, хітрыкі — гульнёю галасістаю, а варагаванне падобнае на забыццё.

У прагнасць да сяброўства налятала на мяне шуляком злосць, іншы раз нянавісць; ніколі — цішыня і спакой, савіныя дзеці мудрасці. Пацяшаюся я тым, што лёс ёсць благі не аднаму мне, скупячыся на прыяцеляў; яны, сябрыскі, знаходзіліся якіясьці марныя, падшытыя гладкай сезоннасцю, такія няважныя, і зараз, з далечы ўсё-такі гадоў, я перастаю бачыць іх твары, забываць паспеўшыя пашарэць імёны.

Кранула мяне і Вялікая Подласць, таму спатрэбіцца часу дзеля супакаення. У яе перыяд жадалася гаварыць праўду аб сабе, верачы ў аздараўленчыя ўласцівасці таго; прасіць спагады, каб блізкія не спяшаліся з высновамі, з загубленнем... Я апынуўся быў якраз на ростанях, што бываюць у чыстаполлі, адкуль бачны пяройдзенае і шэрань стрэчнай далёкасці.

Усё часцей са стрымгалоўем уцякаю ў сонечнасць успамінаў, у лета квяцістае над рэчкаю пад борам, ва ўсхваляванасць танца з першай дзяўчынаю на прыгарадных музыках, у палкасць пітай гарэлкі, спадцішка і пад зорным небам у Каляду, у сутычках ля гасціннай хаты са сваяцкімі падшыванцамі на Пагулянцы; у хмельнасць уданага мардабою...

Адтуль ішлося.

**С. Яновіч**

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### АБ УСІМ ПАТРОХУ

У Нараўскай гміне ёсць 15 958 гектараў зямельных угоддзяў, у тым ліку ва ўладанні індывідуальных гаспадароў 12 255 га. Зялёныя ўгоддзі займаюць сярод іх 41,6%. Значыць, ёсць шанцы для павелічэння жывёлагадоўлі. Сяляне збіраюць ураджаі збожжавых культур і бульбы ніжэй сярэдніх ваяводскіх паказчыкаў, а ўжо асабліва чатырох асноўных зернавых культур (у 1978 годзе земляробы сабралі па 20,5 ц. з 1 га). Падсеялі яны 99,2 кг НПК на 1 га (у ваяводстве ў сярэднім 120,1 кг НПК).

Нараўскія хлебаробы гадуюць 7190 штук быдла, у тым ліку 4090 малочных кароў, 8627 свіней і 4277 авечак. Асабліва павялічылася колькасць свіней. У мінулым годзе сяляне купілі 405 парадзістых цялят для далейшай гадоўлі.

Дзяржаве гаспадары летась прадалі 863 тоны збожжа, 405 тон свіней (план быў выкананы ў 115,7%), 470 тон ялавічыны (276,5%) і 7272 тысячы літраў малака (94,4%). За прададзеныя сельскагаспадарчыя прадукты сяляне атрымалі 76 мільёнаў злотых.

Вяскоўцы ўзялі ў банку 10,4 млн. злотых крэдытаў, у тым ліку на будаўніцтва 4,7 млн. злотых. У мінулым годзе пабудавалі яны 7 інвентарскіх будынкаў на 135 месц (планавана пабудаваць семнаццаць будынкаў). Мадэрнізаваны восем будынкаў для жывёлы на 122 месцы.

У 1978 годзе ў конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“ гміна Нараў заняла чацвертае месца ў ваяводстве. Гміна налічвае 48 вёсак. У конкурсе ўдзельнічала восем. Найлепшыя вынікі ў сельскай гаспадарцы мае вёска Валькі.

У бягучым годзе плануецца пабудова мясцовых дарог: Нараў — Адрынкі (1500-метровы адрэзак) і Навіны-Катлоўка (370 м).

На тэрыторыі Нараўскай гміны пасаджана 5500 дрэўцаў і 300 дэкаратыўных кустарнікаў.

### У ГОНАР 35-ГОДДЗЯ ПНР

Жыхары Беласточчыны выконваюць свае абавязацельствы ў гонар 35-годдзя ПНР. Жыхары Вітава адрамантавалі мясцовую дарогу. Тафілаўчане разбудавалі стражацкую рамізу. Моладзь з Пасталова пабудавала зялёную святліцу. Юнакі і дзяўчаты з Тэраміскаў добраўпарадкавалі панадворак вакол клуба.

### ШТО НА ВЫТВОРЧЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ?

Малочнае прадпрыемства ў Міхалове перапрацоўвае зараз 45 тысяч літраў малака ў суткі. Прывозяць яго з дзевятнаццаці пунктаў скупкі і адной сельскагаспадарчай прадукцыйнай спулдзельні ў Зубрах. Найбольш малака збіраецца ў Міхалове (6 тысяч літраў), Шымках (5 тысяч літраў), Гарадку (звыш 3,5 тыс. літраў), Зубрах, Навасадах і Новай Волі.

На міхалоўскім малочным прадпрыемстве працуе 24-асабовы рабочы калектыў. Прадукуе ён найбольш тлустага тварагу. Нядаўна ў малачарні быў абсталяваны другі агрэгат для пастэрызацыі малака. Яго працаздольнасць 10 тысяч літраў сырадою ў гадзіну.

*

Фабрыка газіраваных напіткаў і разлеўня піва ў Гарадку выпускае цяпер дзевяць тысяч бутэлек фруктону, хлебнага квасу, клуб-колы, піва „спецыял“ і „вігерскае“ ў дзень. Забяспечвае напіткамі жыхароў гміны. Працуе тут сем асоб.

*

Гарадоцкая пякарня мае чатырнаццаціасабовы рабочы калектыў. Сваімі хлебабулачнымі вырабамі забяспечвае яна 26 пунктаў продажу ў сваёй гміне ды яшчэ дастаўляе адну тону хлеба ў Беласток і 2,5 тыс. булачак у Міхалова.

Пякарня пячэ каля 4,5 тон хлеба „пазнанскага“ і „закапянскага“ ды пернікі, торты, пончыкі і іншыя хлебабулачныя вырабы. **(яц)**





*З дакладам выступае Кастусь Мішчук.*

(Працяг са стар. 1)

## ФЭСТ У ЛІТВІНАВІЧАХ

Сапраўды, аж прыемна паглядзець на яе панадворак — такая тут чысціня і парадак, а ў аборы — як у хаце.

— Ці вы на свята, на Тройцу, усё дакладна прыбралі і замялі? — пытаю, але жанчына скромна маўчыць і адказвае за яе сяброўка Марыся Страпчук:

— У яе заўсёды так чыста. Такая з яе ўжо дбайная гаспадыня. А свята — гэта сваёй дарогай, — дадае яшчэ, — бо фэст у Літвінавічах супаў з праваслаўным народным святам, якое называюць у нас „Тройцай“. І была гэта яшчэ адна нагода дзеля таго, каб супольна пасвяткаваць і павесяліцца.

Інспектар Галоўнага праўлення БГКТ на мілейчыцка-нурэцкі раён **Міхась Вішанка** паясняе мне, што гурток Беларускага таварыства ў Літвінавічах яшчэ ў мінулым годзе рашыў ужо традыцыйна ў пачатку чэрвеня наладжваць такія народныя святкаванні. Прапанову адобрылі мясцовыя ўлады, бо і для іх гэта ж таксама добрая нагода. каб сустрэцца з насельніцтвам, расказаць сялянам аб сваіх поспехах, пазнаёміць з намерамі і планамі. Для прыкладу: за мінулы год сяляне Нурэцкай гміны дабіліся звыш 10% прыросту ў жывёлагадоўлі. Гэта даволі многа, але ў папярэднім годзе прагрэс у гэтай жа галіне быў яшчэ вышэйшы. Чаму ж тады не паўтарыць поспехі з 1977 года?

Хопіць аднак разважанняў пра сельскагаспадарчыя справы. У Літвінавічах — святкуюць! Прыехалі людзі з суседніх вёсак: з Зубачоў, Вычулак і Клюковіч, з Сяміхоч, Тымянкі, Пяшчаткі і Вулькі Нурэцкай. Запоўнена ўжо зялёная, прыгожа прыбраная пляцоўка. Усюды сцягі, лозунгі і транспаранты. Пад высокімі дрэвамі расклалі свае тавары гандлёвыя ўстановы. Можна купіць піва, аранжаду, марожанае ды іншыя ласункі. Можна спрабаваць свайго шчасця ў латарэі. Адным словам — як на фэсце. А вясковая святліца пахне яшчэ свежай фарбай. Міхась Вішанка кажа, што тутэйшыя актывісты БГКТ **Анатоль Леўчук** і **Мікалай Купэль** не шкадавалі свайго часу, адарваліся нават ад сенакосаў, каб толькі падрыхтаваць усё для свята, каб іх суседзі і яны самі змаглі паслухаць родныя песні ў выкананні самадзейнікаў з Гарадка і Беластока, каб паглядзелі модныя ўборы, якія прапанаваў ім мясцовы гандаль, каб пазнаёміліся з асновамі дзейнасці ашчадна-пазыкавай спулдзельні, якая цяпер сталася сапраўдным сялянскім банкам, каб урэшце бесклапотна патанцаваць і выпіць за здароўе сяброў.

Да сустрэчы праз год, землякі!

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*— Ну, кабеткі, што заспяваем? — Жанчыны з гарадоцкага хору ў Літвінавічах.*

(Працяг са стар. 1)

## ЧАЛАВЕК, ЯКОМУ ВЕРЫШ

Павятовае праўленне ЗМП актыўна ўключалася ў агульнадзяржаўныя акцыі. Са сваіх ЗМП-оўскіх радоў яно накіравала 30 юнакоў у афіцэрскія школы, а пазней — больш 200 асоб на работу ў вугальныя шахты на Шлёнску.

У той час Кастусь Ляшчынскі праявіў свае публіцыстычныя здольнасці. У „Беластоцкай газеце“ друкуюцца яго мабілізуючыя артыкулы, якія мелі выхаваўчы ўплыў на моладзь. І да сённяшняга дня паяўляюцца яго публікацыі.

Калі ўжо гаварыць аб маладзёжным руху, дык нельга памінуць перыяду, калі Кастусь Ляшчынскі дзейнічаў у Саюзе барацьбы маладых. Ён ужо ў 1946 годзе ўступіў у баявую маладзёжную арганізацыю і ўзначаліў гурток ЗВМ у Нарве. Гурток разгарнуў тады даволі шырокую дзейнасць. Грамадскім чынам падрыхтаваў будынак на святліцу, арганізаваў драмгурток, які з п'есамі выступаў у многіх вёсках былога Бельскага павету.

У 1950 годзе Кастуся Ляшчынскага, семнаццацігадовага юнака, партыйная арганізацыя прыняла ў рады Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пасля курса старшынь гурткоў ЗМП у Юхах, ён працуе інструктарам Павятовага праўлення ЗМП у Бельску. У палове 1951 года Кастуся Ляшчынскага накіроўваюць на паўгадовы курс ЗМП у Лодзі. Пасля працаваў у Ваяводскім праўленні ЗМП у Беластоку, у аддзеле агітацыі і прапаганды. А ад пачатку 1954 года ўзначальваў Павятовае праўленне ЗМП у Гайнаўцы.

У часе прафесіянальнай працы К. Ляшчынскі выконвае шмат адказных грамадскіх функцый: член Галоўнага праўлення ЗМП, лаўнік ваяводскага суда, член камісіі культуры Ваяводскай рады нарадовай, радны Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы, старшыня павятовай камісіі дзяржаўных узнагарод, член Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы і член экзекутывы гэтага камітэта, а цяпер член экзекутывы Гарадскога камітэта ПАРП, член пленума Ваяводскай рады прафсаюзаў.

За салідную прафесіянальную працу і грамадскую дзейнасць Кастусь Ляшчынскі ўзнагароджаны: Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Залатым і Сярэбраным Крыжамі Заслугі, Залатым знакам „Заслужаны для Беласточчыны“ і прынамсі дзесяццю іншымі ўзнагародамі.

Сэнсам яго жыцця з'яўляецца служэнне людзям. І ў яго сям'і лад і парадак. Жонка яго Анна працуе медсястрой. Яе заўсёды хвалюе ўспамін аб тым, як яна была хрышчонай маткай парахода „МС Гайнаўка“. Было гэта 18 мая 1971 года.

**М. Хмялеўскі**
Фота М. Шаховіча

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XXXVII

Арыгінальнасць Якуба Коласа праявілася, між іншым, у падыходзе да працы. Для большасці нашаніўскіх пісьменнікаў сялянская праца была не радасцю, а праклёнам. Новыя адносіны да працы былі заўважаны крытыкам Ул. Дзяржынскім: „У „Новай зямлі“ мы ўпершыню пабачылі на фоне прамяністай беларускай прыроды замест „панурых“ ратаяў „веснавыя перавалы разудалага смеху“ касцоў, якія хваляй дужай, разгоннай ідуць да працы.“

Зразумела, што пісьменнік захапляецца не толькі заняткамі касцоў, але прыгажосцю сялянскай працы ўвогуле. Глядзіць ён на працу, несумненна, пазітывістычна. Бачыць у ёй сэнс чалавечага жыцця.

Як вядома, велічнасцю і стваральнасцю сялянскай працы захапляўся ўжо Багушэвіч. Аднак Багушэвіч у вершы „Дурны мужык, як варона“ падкрэсліў, што селянін не ў стане карыстацца пладамі сваёй працы. Колас таксама ведаў, што селянін атрымлівае нязначную долю з таго, што ім зроблена і рэалізавана, але нягледзячы на гэта, захапляўся працэсам працы і падкрэсліваў яе вялікае эстэтычнае і матэрыяльнае значэнне.

Чытаючы некаторыя фрагменты „Новай зямлі“, у якіх з асаблівым пафасам гучыць матыў пахвалы працы, магло б здавацца, што выйшлі яны з-пад пяра пісьменніка — хлапамана або народніка. Такое ўражанне аднак было б фальшывым. Народнік ці хлапаман — чалавек, які назірае за сялянскай працай, глядзіць на яе з перспектывы іншай, не сялянскай грамадскай праслойкі. І таму ў яго апісаннях заўсёды будзе выступаць толькі знешняя абалонка, толькі пэўная дэкаратыўнасць з'явы, якая завецца сялянскай працай.

Колас, сын беларускай вёскі, глядзеў на сялянскую працу „з сярэдзіны“, ведаў ён дасканала яе спецыфіку. Па сутнасці не толькі ў часе пісання паэмы, але і на працягу ўсяго свайго жыцця прымаў ён у сялянскай працы ўдзел. І таму, чытаючы „Новую зямлю“, верым у аўтэнтызм аўтарскага бачання працы. І ва ўласным жыцці, калі мы былі або цяпер з сялом звязаны, знаходзім аналогію да сказанага аўтарам. І кожны, каму ў жыцці даводзілася малаціць цапамі, захопіцца выдатнай сцэнай коласаўскай малацьбы.

*Ну, грымнем, хлопцы, каб звінела!*
*І пяць цапоў ідуць у дзела.*
*Не малацьба, а бубнаў хоры!*
*Здаецца б цэпам вадзіў хворы!*
*Бічы кладуцца так рытмічна,*
*Само гудзенне іх музычна;*
*Снапы не ўлежаць, скачуць самі*
*І сыплюць жыта пад бічамі.*
*...Гудуць цапы ўгары праворна,*
*Ідзе работа дружна, спорна,*
*Аж падшывае ўсіх ахвота,*
*Бо мае свой захоп работа.*

У паэме знойдзем не мала цудоўных апісанняў працы жнеек, касцоў, збірання грыбоў і г. д. Усюды Колас спявае велічны гімн чалавечай працы і яе стваральнаму сэнсу.

УСПАМІНЫ (26)

## Ніна Мушынская
# Заручаныя з песняй

### БАБЫ

Год 1977. Аб конкурсах беларускай песні больш ні гу-гу. Сталі звычайнымі, мала цікавымі.

Зноў просяць нас у Нарву. Адмаўляліся мы, як маглі: не любяць нас там, бо мала ў калектыве маладых дзяўчат, а сцэна — ногі паломіш і г.д. Запэўнівалі нас, што ўсё змянілася. Ёсць сапраўдная сцэна з занавесам, ёсць адпаведная апаратура, публіка палюбіла фальклор.

20 лютага паехалі. Не было ашуканства. Была сцэна з занавесам і вельмі мілы, сімпатычны кіраўнік святліцы. І публіка сапраўды змянілася. Апладысментаў не шкадавалі.

Але ля самай сцэны села пара, якая ў час канцэрту голасна іранізавала. Ён: — Ты б лепш заспявала. Яна: — Ад каго патрабаваць? Адны старэчы...

Я не вытрымала. Абураная гэтымі заўвагамі, выйшла наперад і прачытала верш Керна:

*W butelce sodowej wody*
*Potęga jest wielka zawarta,*
*Uderza czasem do głowy*
*Bardziej niż wina kwarta.*
*Gest po niej robi się szerszy,*
*Dumnie unosi się brewka.*
*Pod tym względem wysiada*
*Każda nalewka.*
*Po wodzie sodowej człowiek czuje,*
*Że wszystko najlepiej wie.*
*W dodatku alkohol paruje,*
*A woda sodowa nie.*

Прытым рабіла жэсты ў напрамку разумнікаў. Памагло. „Крытычная“ пара, каб адвесці ад сябе ўвагу, біла брава і захоўвалася прыстойна. На вячэры сустрэліся з імі. Ён прасіў прабачэння і захапляўся маёй інтэлігенцыяй.

Цяпер з упэўненасцю магу пацвердзіць: у Нарве адбыліся добрыя змены. Як запросяць, ахвотна туды паедзем.

Вельмі ўцешыліся мы з запрашэння кіраўніцтвам прадпрыемства „Betesca“ ў Беластоку на свята жанчын, якое арганізавала яно сваім працаўнікам у кавярні прафсаюзаў 10 сакавіка.

Канцэрт наш ішоў як па нітачцы. Складна, без перабою. Прымалі нас сардэчна. Пасля канцэрта кожная з нас атрымала падарунак і кветкі.

Мне ўжо 67. Часта, асабліва, калі гляджу ў люстэрка, прымаю рашэнне не псаваць сабою выгляд сцэны. Невялічкі нейкі поспех — і чую новыя сілы. Хоць бы сёння. Адна маці прыйшла на вечар з малышом. Падыходзіць ён да мяне і, заікаючыся ад хвалявання, дзякуе за канцэрт, складае пажаданні, уручае 5 цудоўных гваздзікаў і цалуе па-джэнтльменску руку.

Мужчыны! Бярыце прыклад з малыша-джэнтльмена!

Не скажу, што на вечары такіх мужчын не было. Атрымала многа шакаладу, кветак, пажаданняў і... пацалункаў. І яшчэ што? Не ўгадаеце. Дык пахвалюся. Мела такі поспех, як ніводная з маладзейшых сябровак. Так ніколі яшчэ не танцавала. Люблю танцаваць.

Праца з жанчынамі цяжкая, нервовая. Ніколі не вядома, калі ёсць добра, а калі дрэнна і з чаго будуць задаволены, а калі і за што будуць дуцца. Сёння таксама дуліся. Прычыны не скажу. Хай справа застанецца між намі. Ужо даўно адчуваю, што замінаю некаторым, хоць у пэўных сітуацыях цяжка без мяне абыйсціся.

Старэю. Апошнім часам адчуваю сябе няважна. Старасць — нармальная з'ява, але хвароба, якая паваліла мяне, ударыла, як маланка з яснага неба. Яшчэ была я поўнаспраўнай у час арганізавання тэатральнага конкурсу. Ігралі „Гора чубатае“. Былі вялікія цяжкасці з гэтай пастаноўкай. Н. Парэмбская дрэнна адчувала сябе і не магла выступіць. Трэба было шукаць іншую. Згадзілася Н. Цыванюк. І зноў бяда. Якраз у час цэнтральнага агляду Н. Цыванюк мела экзамены (вучылася завочна). Падумала я, што выратуе нас Н. Бурачэўская. Будучы суфлёрам, добра ведала п'есу. Так і было. У рэкордна кароткім часе вывучыла ролю. На конкурс паехалі ў складзе: Наталля Савіцкая, Марыя Лукошык, Уладзімір Лукошык, Тамара Бурачэўская і я.

# СЯРОД ПОМНІКАЎ ДАЎНІНЫ

У пачатку чэрвеня бягучага года Беластоцкі акруговы музей адзначаў 30-годдзе сваёй дзейнасці. У сувязі з юбілеем традыцыйная штогадовая „Сустрэча музеяў паўночна-ўсходняй Польшчы“ набыла характар некалькідзённай, багатай рознымі мерапрыемствамі ўрачыстасці, у якой прысутнічаў дырэктар Нацыянальнага музея ў Варшаве С. Лорэнц.

У ёй значнае месца занялі даклады, прысвечаныя розным праблемам музейнай справы ў Польшчы. І так, 5 чэрвеня г.г. дырэктар Беластоцкага акруговага музея др Я. Ясканіс выступіў з дакладам „Акруговы музей у Беластоку пасля 30 год дзейнасці. Цяперашні стан і напрамкі развіцця“, дырэктар музея ў Вілянове каля Варшавы др В. Фіялкоўскі сваё выступленне прысвяціў ролі і дзейнасці краёвай секцыі музейнай справы прафесіянальнага саюза работнікаў культуры і мастацтва. Наступны дзень 6 чэрвеня ўвесь прайшоў у Тыкоціне і быў прысвечаны ў асноўным абмеркаванню праблем, звязаных з захаваннем помнікаў і дзейнасцю музеяў у гмінах. Др Б. Рыманоўскі з Варшавы якраз гэтыя справы разглядаў у сваім выступленні, др Е. Бараноўскі з Варшавы прадставіў гістарычныя і экспазіцыйныя каштоўнасці архітэктурных помнікаў у Тыкоціне, мгр Я. Кубяк з Варшавы прааналізаваў будаўніцтва Тыкоціна і праблемы экспанавання яго помнікаў, мгр Е. Трыбурскі з Беластока разглядаў асаблівасці кансерватарскіх работ у малых гарадскіх ансамблях на прыкладзе Тыкоціна, мгр М. Рамашэўская з Варшавы засяродзіла ўвагу на праблемах кансервацыі твораў жывапісу ў Вялікай зале былой тыкоцінскай сінагогі, мгр Е. Цывінская з Беластока ў сваім дакладзе спрабавала адказаць на пытанне, наколькі музей у Тыкоціне з'яўляецца музеем у гміне, а наколькі для гміны. Пасля дакладаў праходзіла ажыўленая дыскусія.

Разважанні спецыялістаў па музейнай справе працягваліся таксама ў часе наведвання музеяў Беластока, Тыкоціна, Супраслі, Харошчы і спецыяльна арганізаванай 7 чэрвеня экскурсіі па „татарскаму шляху“ ў Крушыняны і Багонікі. Вечары аздобілі спецыяльныя канцэрты, між іншым, у адным з іх выступіў славуты Віляноўскі квартэт.

Свой юбілей Беластоцкі акруговы музей адзначыў таксама адкрыццём дзвюх цікавых выставак: „Фарфор і мастацкія вырабы са шкла ў зборах Беластоцкага музея“ і **„Гадавыя абрады на Падляшшы“**. Асабліва гэтая апошняя мае вялікае значэнне для знаёмства з нядаўна яшчэ жывымі абрадамі на Падляшшы, якія загінулі або гінуць у наш час пад націскам цяперашніх гаспадарчых, грамадскіх і культурных пераўтварэнняў. На выстаўцы прадстаўлены экспанаты, звязаныя з абрадамі, што адбываліся ці ў заніковай форме адбываюцца яшчэ ў розныя поры года. З зімовых абрадаў вядучае месца займае калядаванне са звяздой і батлейкай, тут выдатнае месца займаюць замысловатыя звёзды з Падалянаў і Тэраміскаў у гм. Белавежа, Рыбалаў гм. Заблудаў і Валілаў гм. Гарадок. Сярод экспанатаў, звязаных з вясеннімі абрадамі, знаходзім велікодныя яйкі, якія асабліва па-майстэрску здобяць у беларускім асяроддзі ў ваколіцах Сямяціч. Надта ж каштоўным зборам з'яўляюцца розныя постаці караваяў, булак, булачак, „гусак“, якія сялянкі з ваколіц Рыбалаў пяклі вясною з нагоды прылёту буслоў і пачатку палявых работ. Гэтыя вырабы мелі садзейнічаць багатаму ўраджаю. З летніх абрадаў, на жаль, не шмат экспанатаў апынулася на выстаўцы, хоць іх рэшткі, асабліва звязаныя з пачаткам сенакосу, жніва яшчэ захаваліся ў нашым асяроддзі. Восень, вядома, прыносіла дажынкавы вянок, і ён таксама красуецца на выстаўцы.

Выстаўка „Гадавыя абрады на Падляшшы“, складзеная з экспанатаў з Сельскагаспадарчага музея ў Цеханоўцы, Археалагічнага музея ў Лодзі, Акруговага музея ў Любліне і са збораў Беластоцкага акруговага музея, будзе адкрыта ў беластоцкай ратушы яшчэ ў ліпені і жніўні.

**І. Снарскі**


*Калядная звязда з в. Рыбалы Заблудаўскай гміны. Фота М. Гайдука.*

Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЕНАКОСНАЯ




*А у сокала залаты пёра,*
*а у паванькі — косы.*
*Ой, ні зажыла жадна нівеста*
*у свёкерка раскошы.*
*Ой, ні зажыла жадна нівеста*
*ў свёкерка раскошы.*
*Ходзіт свёкерко по новых сенях —*
*нівесту абуджае:*
*— Устань, нівесто, устань маладая —*
*ужэ другі кур співае.*
*Устань, нівесто, устань маладая —*
*ужэ другі кур співае.*
*Нівеста ўстала, нівеста ўстала,*
*слёзонькамі ўмылась:*
*— У баценька была, у баценька была,*
*то я зораў ні знала.*
*Зораў ні знала, кураў ні чула —*
*усю работаньку рабіла.*
*Зораў ні знала, кураў ні чула —*
*усю работаньку рабіла.*

Ад Марыі Янюк, 1908 года нараджэння, мястэчка Нараўка, запісаў 24 студзеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

Ці ведаеце, што...

...у мінулым асенне-зімовым сезоне ў сельскагаспадарчых курсах удзельнічала звыш 2 мільёнаў сялян. Асноўнай формай павышэння прафесіянальных кваліфікацый, якая карыстаецца ўжо вялікай папулярнасцю на вёсцы, з'яўляюцца курсы, падрыхтоўваючыя да экзаменаў на званне „кваліфікаванага гаспадара“ і „майстра“ той ці іншай сельскагаспадарчай спецыяльнасці. Варта дадаць, што на працягу апошніх трох гадоў такія званні атрымала звыш паўмільёна сялян.

...у Польшчы абсяваем збожжамі 8,5 млн. гектараў.

...у бягучым годзе ў нашай краіне плануецца атрымаць сярэдні ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур 27,5 ц/га, бульбы — 195 ц/га і буракоў — 300 ц/га.

...сёлета ў Польшчы павінна значна павялічыцца пагалоўе свойскай жывёлы: свіней — на 100 тыс. штук, быдла — на каля 300 тыс. штук і авечак — на 150 тыс. штук.

...у Польшчы вырошчваем каля 50 мільёнаў тон бульбы.

...у 1979 годзе польская сельская гаспадарка атрымае 60,5 тыс. трактараў, 4 тыс. камбайнаў для ўборкі збожжа, 10 тыс. трактарных бульбакапалак, 4,2 тыс. камбайнаў для ўборкі бульбы і буракоў.

**(яц)**




### УВАСКРЭС

Няма — як народная медыцына. Лекары лекарамі, але як па-свойму не зробіш, то колькі і як бы ты тых лекаў не прымаў, а і так праваляешся, пакуль хваробе не абрыдне і сама не адступіць. О, Мікалай! Хто ведае, ці хадзіў бы чалавек па свеце, калі б не дапамаглі. Добра, што якраз упару.

Ад раніцы Мікалаю балеў жывот. Страшна балеў, так як бы нехта залез туды і цягаў нажом то ў адзін, то ў другі бок. Як палатно, белы хадзіў. Ужо думаў падацца да лекара, калі накрунуўся ён, Іван. Чалавек ён бывалы, не адно ў жыцці давялося яму бачыць.

— Што, жывот? — сказаў, глянуўшы на Мікалая.

Той аж аслупеў. „Адкуль вядома?“ — падумаў. — Ага, — кіўнуў толькі галавою.

— Даўно?

— Ад учора. Рэжа так, што неба, здаецца, лізнуў бы.

— Лячыў?

— Так. І жалудачныя каплі браў, і пілюлямі нейкімі гаспадыня карміла.

— Усё гэта гамно. 30 год чалавеку, а незарадны, як дзіця. Тут па-суседску, ідзі прынясі, але моцнай, на сорак пяць. Ідзі, ідзі, дзякаваць яшчэ заўтра будзеш. Мікалай, хаця нічога ўцяміць не мог, але прынесці прынёс.

— Каб ад воспы чалавека зберагчы, то што робяць? Вядома, заразкі пушчаюць, каб адпорным стаў арганізм. Вып'еш вось, прачысціць — і ўсё. Жалудак жа гэта. Рве?

— Крыху.

— Ага, бачыш, прарвацца не можа. Дапамагчы трэба. Трымай, — падаў вынятую з шафы шклянку.

— Хіба што крышачку, бо я ж ніколі...

— Хто каго тут лечыць? Тым лепш, што ніколі, хутчэй прачысціць. Ці ж ты бачыў, каб хто ішоў да зубнога лекара, калі зубы не баляць? Кожны ж у жыцці нешта робіць першы раз, — і падаў поўную шклянку. — Пі.

Мікалаю аж па барадзе цякло, крывіўся, моршчыўся, але ўяўленне, што заўтра будзе здаровы, як усе, перамагло.

— Закусіць бы чымсьці, — прагаварыў, схапіўшы паветра.

— Я табе закушу! Ты думаеш ад чаго гэтыя болі, ад яды. Наеўся нечага. Трымай, — працягнуў палавіну шклянкі

— Паможа, думаеце? — закашляўся Мікалай.

— Паможа, паможа, ведаю, што раблю, — і выліў рэшту сабе. — Ідзі хутчэй дахаты і лягай.

І пачалося змаганне за Мікалаева здароўе. Аж столь у вачах хадуном захадзіла. Круціцца, як карусель. Дзе ні глянь, усюды вокны ды вокны. Ложак неяк перакасабурыўся і пачаў хіліцца.

Прачнуўся недзе за поўнач. Цемра, як у магіле. Мац, мац рукою з правага боку — нешта цвёрдае, гладкае. Сцяна нейкая. Сунуў нагою ўперад, зноў нешта не пускае. — Што за халера? — падумаў. Спрабаваў сесці, але толькі прыпадняўся і трах аб нешта цвёрдае галавою. Устаць не дае. Тут ужо і страшна стала. А яшчэ нешта жывое мокрае заварушылася і каля самай галавы села. „Не іначай, як у труне, у магіле ляжу, — мільганула. — Не разабраліся, відаць, і жывым пахавалі“. Пачаў крычаць.

— Ратуйце, — верашчыць, — жывы я тут ляжу. Не бойцеся, гэта ж я, Мікалай Ігнатаў, той, якога нядаўна хавалі, з жывата што памёр.

Раптам бліснула святло. Сабачка, пачуўшы гаспадыню, махнуў Мікалаю хвосцікам па твары і выскачыў з-пад ложка, страсянуўся, як бы вылезшы з вады, і пачаў лашчыцца да ног сваёй пані.

— Ах божа ж мой! — заверашчала гаспадыня. — А што ж ты тут натварыў? Цэлага сабачку мне запаскудзіў, — і пачала цягнуць Мікалая за нагу, з-пад ложка. — Памёр ён, я цябе, гад, пахаваю!

Свядомасць вярнулася, калі гаспадыня пачала выкідаць з шафы Мікалаевы рэчы. — Гэта ж я не ў труне, а пад ложкам, — пачаў успамінаць. Гэта значыць не памёр я, гэта толькі ўчарашняе лячэнне.

— Ну як, прачысціла? — спытаў Іван, калі сустрэліся.

— Прачысціла мяне і гаспадыню.

— Бачыш, я казаў, народная медыцына — справа вялікая. Лечыць аднаго, а часамі, і другому паможа. Цяпер ужо можаш закусваць.

**Бізун**

# З ГУСТАМІ НЕ СПРАЧАЮЦЦА

Усё было добра. Пакуль не пажаніліся. Пасля вяселля на другі ж дзень жонка крытычна агледзела мяне з ног да галавы (быццам упершыню ўбачыла) і з роздумам сказала:

— Кахаю цябе, мілы, моцна, моцна. Але ж нейкі ты занадта тоўсты. Трэба табе пахудзець. Мне падабаюцца стройныя мужчыны.

З гэтага і пачаліся мае пакуты. Знаёмая параіла ёй дыэту для мяне. Ці то англійскую, ці то французскую. Але асабіста я ў гэтым сумняваюся. Бо, акрамя кефіру, зрэдку перападала толькі салёная кілька ды акрайчык чэрствага хлеба.

Першы раз страціў я прытомнасць у аўтобусе. Другі — каля свайго пад'езда, суседзі дапамагалі падняцца на чацверты паверх.

Калі я стаў тонкі, звонкі і празрысты, жонка злітавалася:

— Досыць, мілы. Цяпер ты сапраўдны мужчына. Але яшчэ не джэнтльмен. Усе джэнтльмены носяць вусы і бараду.

Мяне гэта спалохала не на жарт. Бо мой начальнік абяцаў павышэнне па службе, а барадатых ён цярпець не мог — сам быў лысы і не галіўся. Прырода пажартавала над ім так.

Таму я запратэставаў.

— Мілы, — сказала жонка, — з густамі не спрачаюцца.

Бараду і вусы я адрасціў, а з работы давялося звольніцца. Для начальніка так было лепш.

Апошнім выпрабаваннем стаў белы, як малако, плашч, што купіла жонка. Я адбіваўся, колькі ставала сіл, не хацеў апранаць. Аднак яна была няўмольная.

— Белы колер, — гаварыла мая спадарожніца жыцця, — усім пасуе да твару і заўсёды ў модзе. Усе інтэлігентныя людзі носяць усё белае.

Я здаўся. На наступны дзень вяртаўся дамоў у прыцемках. Раптам з суседняга пад'езда выскачыла жанчына. З крыкам: „Доктар, мілы, хутчэй, хутчэй. Дзіцяці зусім блага", — яна ўчапілася за рукаў майго плашча. Падаспеў яе муж і схапіў за другі. Я, вядома, пачаў упарціцца, бо які ж я доктар. Але тут жанчына быццам звар'яцела. „Бач, ты, — злосна крычала яна, — якія цяпер дактары. Дзіця ад болю і крыку заходзіцца, а яму хоць бы што. Пасаромеўся б халат насіць", — і з гэтымі словамі жанчына так тузанула за рукаў, што ён застаўся ў яе руках. А муж абарваў другі...

Цярпенне маё лопнула. Назаўтра я панёс заяву на развод.

**А. Макоўскі**



**...У яго такі вялікі талент, што частку носіць за пазухай.**








## ГУМАР З БАРАДОЙ

### ХІТРЫ СУСЕД

Два суседы купілі асла.

— Якая палова будзе твая? — пытае першы сусед.

— Але ж асёл агульны!

— Гэта так, але ўсё ж трэба ведаць, каму якая палова належыць.

— Ну, няхай мая будзе пярэдняя, з галавой, — адказаў другі сусед.

— Добра! — згадзіўся першы. Ён сагнаў мух з аслінага хваста і сказаў свайму кампаньёну:

— Я паклапачуся пра сваю палову. Цяпер твая чарга. Купі аўса і добра накармі сваю палову.

### УСЯ ЗЛОСЦЬ У ХВАСЦЕ

— Чаму гэта, Кастусь, у цябе сабака без хваста?

— Вельмі злосны быў. Прывязваш, бывала, дык як не можа нікога ўкусіць, сам сабе хвост грызе.

— Чаму ж цяпер стаў такім ціхім, што й не гаўкне?

— Хвост жа адгрыз. А ўся злосць у яго была ў хвасце.

### ЯК НЕ ПЛАКАЦЬ

— Чаму ты плачаш, малы?

— Мама сказала бацьку, што ён слон. Вацька адказаў маме, што яна курыца.

— Ну і што?

— А хто ж тады я?

З „Весніка Задрыпоніі"

### НАВІНЫ НАВУКІ

У раёне Бермудскага трохвугольніка бясследна знікла лятаючая талерка са снежным чалавекам і лох-нескім страшыдлам на борце.

### ПЫТАННЕ ПРАФЕСАРА КАЗЯЎКІ

Ці набывае карысны вопыт той, хто б'ецца галавою аб сцяну?

### УСТУПНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ



— *Ну, хоць што-небудзь аб Н'ютане вы ведаеце?*

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

*Па просьбе Крыстыны Давідоўскай з Беластока змяшчаем песню*

## СОРМОВСКАЯ ЛИРИЧЕСКАЯ

**Слова: Е. Долматовского**
**Музыка: Б. Мокроусова**

На Волге широкой, на стрелке далекой,
Гудками кого-то зовет пароход.
Под городом Горьким, где ясные зорьки,
В рабочем поселке подруга живет.

В рубашке нарядной к своей ненаглядной
Пришел объясниться хороший дружок:
Вчера говорила — навек полюбила,
А нынче не вышла в назначенный срок.

Свиданье забыто, над книгой раскрытой
Склонилась подруга в окне золотом.
До утренней смены, до первой сирены
Шуршат осторожно шаги под окном.

Ой, летние ночки, буксиров гудочки,
Волнуется парень и хочет уйти.
Но девушки краше, чем в Сормове нашем,
Ему никогда и нигде не найти.

А утром у входа в ворота завода
Влюбленному девушка встретится вновь
И скажет: „Немало я книжек читала,
Но нет еще книжки про нашу любовь".

На Волге широкой, на стрелке далекой,
Гудками кого-то завет пароход.
Под городом Горьким, где ясные зорьки,
В рабочем поселке подруга живет.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Вы не маеце ніякага вопыту ў гэтай рабоце, чаму ж вы просіце такую вялікую зарплату?

— Таму, што работа тым цяжэйшая, чым менш у ёй разумееш!

* * *

У рэдактара газеты была манія дакладнасці, і ён заўсёды патрабаваў ад супрацоўнікаў таго ж. Аднойчы адзін з яго рэпарцёраў прынёс справаздачу аб нейкім сходзе. Рэдактар пачаў чытаць справаздачу і наткнуўся на фразу: „Тры тысячы дзевяцьсот дзевяноста дзевяць вачэй упіліся ў прамоўцу".

— Гэта што за глупства? — абурыўся рэдактар.

— Гэта не глупства, сэр, сярод удзельнікаў сходу быў адзін аднавокі.

* * *

Жанчына гаворыць сяброўцы, якая сядзіць за рулём машыны:

— Асцярожней! Ты хіба не бачыш знак „Небяспечны паварот"?

— Іменна таму я і хачу праехаць прама.

### З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ






MADE IN ZADRYPANKA

### НЕ ПЕРАШКАДЖАЕ...

Доктар Знахарук:

— Мой дружа, вас трэба апераваць.

— Апераваць! Ніколі! Лепш памерці!

— Адно другому не перашкаджае...

### НЕ ТЫЯ СВЕДКІ

Пад зорказым небам ён сказаў:

— Няхай гэтыя мільярды зорак будуць сведкамі таго, як я цябе кахаю!

— Павінна табе сказаць, — прамовіла Яна, — што два сведкі пры рэгістрацыі шлюбу мне былі б больш да спадобы!

## КУРЪЁЗЫ

### НОВАЯ КРАІНА

На граніцы з Мексікай на тэрыторыі Злучаных Штатаў пранеслася бура, дзякуючы чаму ўтварыўся востраў плошчай у 400 акраў. На гэтую зямлю пакваліўся адзін жыхар Тэхаса Герберт Уільямс і купіў яе за 400 тысяч долараў. Ён аб'явіў аб стварэнні новай краіны. Склаў план адпаведных дзяржаўных устаноў, адкрыцця казіно і тэлестанцыі, устаноўку сцягоў прыкрыцця для замежных параходаў і караблёў, каб такsama ж фірмы за пэўную плату Герберту маглі пазбегнуць дзяржаўных падаткаў.

Сябры Герберта Уільямса папярэджваюць яго, што гэтая ініцыятыва рызыкоўная, яна можа выклікаць незадавальненне абедзвюх пагранічных дзяржаў — ЗША і Мексікі. А ён адказвае: тады я звярнуся ў міжнародны суд. Там на працягу 20 гадоў будуць разбіраць справу, пакуль прымуць нейкае рашэнне. І нават калі рашэнне будзе не ў маю карысць, то гэтыя 20 гадоў я буду валодаць уласнай краінай.

### КАМЕНЬ З ПРЫВІТАННЕМ

Генрых Гейнэ атрымаў ад сябра даплатное пісьмо. У ім на вялікім лісце паперы была толькі адна фраза: „Адчуваю сябе добра".

Неўзабаве ў адказ прыйшла пасылка — цяжкая скрынка, за дастаўку якой давялося заплаціць кругленькую суму. У скрынцы ляжалі вялікі камень і запіска: „Калі я прачытаў, што адчуваеш сябе добра, гэты камень зваліўся з майго сэрца. Дасылаю яго табе. Твой Гейнэ".



**Пры чытанні сказа „Верш ваш атрымаўся, на жаль, слабаваты", рабіце націск на слове „атрымаўся". Астатняе — сантыменты.**